# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№ 6-7 (181-182)
чэрвень-ліпень 2017

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:





# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ, МОВА, КАНСАЛІДАЦЫЯ ДЗЕЛЯ РАЗВІЦЦЯ – ВЫНІКІ ПРАЦЫ СЁМАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

15–16 ліпеня ў Мінску прайшоў Сёмы з'езд беларусаў свету МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", у якім узялі ўдзел 228 дэлегатаў, з якіх 115 дэлегатаў – прадстаўнікі беларускага замежжа з 20 краін.

Вынікам двухдзённай працы дэлегатаў стала прынящце дакументаў, якія актуалізуюць агульнанацыянальныя пытанні. Праблемы, узнятыя ў гэтых дакументах, тычацца кожнага беларуса, незалежна ад месца пражывання і сферы дзейнасці. Таму аргкамітэт З'езда неўзабаве размесціць прынятыя дакументы на арганізацыйным сайце і дашле іх па суполках беларусаў замежжа, грамадскіх арганізацыях і дзяржаўных установах Беларусі. Акрамя таго, на падставе гэтых матэрыялаў далей будуць фармулявацца прапановы з боку Згуртавання "Бацькаўшчына" да дзяржаўных інстытуцый краіны, а таксама будзе складзены план дзейнасці самога Згуртавання на наступныя чатыры гады.

Выніковыя дакументы, прынятыя З'ездам:

- выніковая рэзалюцыя Сёмага з'езда беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" "Беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць, беларускае замежжа – выклікі сучаснасці і стратэгія развіцця";
- рэзалюцыя "Справа захавання і ўмацавання незалежнасці Беларусі – справа ўсіх беларусаў";
- рэзалюцыя "Беларуская мова – аснова беларускай нацыі і падмурак дзяржаўнасці Беларусі";
- зварот Сёмага з'езда беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, да Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, да Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь "Аб забеспячэнні прававых, арганізацыйных, фінансавых і іншых умоў для развіцця стратэгічнага супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь і беларусаў замежжа";
- прапановы да дзяржаўнай стратэгіі "Беларусь – дыяспара" на перыяд да 2025 года;
- зварот да кіраўніка гарадской акругі г. Калінінграда "Аб наданні імя Францішка Скарыны вуліцы ў г. Калінінградзе";
- зварот да мітрапаліта Кандрусевіча і ўладаў сталіцы аб размяшчэнні парэштказ княгіні Магдалены Радзівіл у Чырвоным касцёле ў Мінску
- вітанне Сёмага з'езда беларусаў свету МГА "Бацькаўшчына" дэлегатам Шостага з'езда Сусветнага кангрэса татараў.

Гасцямі З'езда былі вядомыя беларускія культурныя і грамадскія дзеячы, прадстаўнікі міністэрстваў і Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, вышэйшых навучальных устаноў, праваслаўнай, рымакаталіцкай, грэка-каталіцкай канфесій, Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, мусульманаў Беларусі.

У першы дзень З'езда з вітальным словам да ўдзельнікаў звярнуліся кіраўнік МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская і старшыня Рады Ніна Шыдлоўская. Выступілі прадстаўнікі дзяржаўных устаноў: міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Макей і намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Васіль Чэрнік.

На з'ездзе былі агучаныя вітанні Рады БНР, Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку, ФНКА "Беларусы Расіі", часопіса "Культура. Нацыя" і інш.

Працяг на старонцы 2.

**VII з'езд беларусаў свету**

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ, МОВА, КАНСАЛІДАЦЫЯ ДЗЕЛЯ РАЗВІЦЦЯ – ВЫНІКІ ПРАЦЫ СЁМАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Працяг са старонкі 1.

З дакладамі па асноўнай тэме З'езда – "Беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць, беларускае замежжа – выклікі сучаснасці і стратэгія развіцця" – выступілі доктар гістарычных навук, супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Валянцін Голубеў, кіраўнік МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская, кандыдат гістарычных навук, намеснік дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Наталля Гардзіенка і доктар гістарычных навук, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства (Польшча) Алег Латышонак.

Са справаздачным дакладам па дзейнасці МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выступіла Старшыня Рады Ніна Шылдоўская.



Кіраўніком ЗБС "Бацькаўшчына" абраная Алена Макоўская, старшынёй Рады абраная Ніна Шыдлоўская.

У другі дзень З'езда праца ўдзельнікаў была арганізаваная па секцыях: "Беларуская дзяржаўнасць: станаўленне, рэаліі, перспектывы", "Беларуская дыяспара і Беларусь: стратэгія ўзаемадзеяння ў сучасных умовах" і "Беларуская мова і культура – асноўва нацыянальнай дзяржаўнасці". Праца секцый насіла больш практычны характар у межах акрэсленых тэмаў, а высновы, зробленыя падчас працы секцый, былі ўлічаныя ў выніковай рэзалюцыі.

Пасля зацвярджэння выніковых дакументаў адбыліся выбары кіруючых органаў МГА "ЗБС "Бацькаўшчына": кіраўніком Згуртавання абраная Алена Макоўская, а ў склад Вялікай Рады ўвайшло па 50 прадстаўнікоў з Беларусі і суполак беларускага замежжа. На першым пасяджэнні новаабранай Вялікай Рады старшынёй Рады абраная Ніна Шыдлоўская.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

# Алесь Чайчыц: ПАТРЭБНАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ СТРАТЭГІЯ ШТО ДА ПРАЦЫ З ДЫЯСПАРАЙ

Выступ Сакратара Інфармацыі Рады БНР Алеся Чайчыца на Сёмым З'ездзе беларусаў свету ў Мінску, 15 ліпеня 2017 г.

Шаноўныя сябры, я рады вітаць вас на гэтым прадстаўнічым З'ездзе.

Нас сабралася тут шмат людзей. Большасць з нас нарадзіліся ў Беларусі і даўно з'ехалі адсюль. Меншасць – нарадзілася за мяжой, але памятае пра свае беларускія карані.

Беларуская дыяспара мае вялікі патэнцыял. Тыя, хто сёння прысутнічае на З'ездзе, – гэта маленькая верхавіна вялікага айсберга. За апошнія стодзвесце гадоў з Беларусі выехалі дзясяткі ці нават сотні тысячаў чалавек. Многія з іх дасягнулі вялікага поспеху за мяжою. Многія з нашчадкаў гэтых людзей памятаюць пра сваё беларускае паходжанне і гатовыя дапамагаць Беларусі.

Каб гэтыя людзі дапамаглі Беларусі, патрэбная дзяржаўная стратэгія што да працы з дыяспарай. Мы маем закон "Аб беларусах замежжа", але ён носіць выключна рамачны характар. Закон толькі закладае агульныя асновы для палітыкі ў гэтай сферы. Неабходна сфармуляваць дакладныя і канкрэтныя мэты і задачы, якіх мы разам – дзяржава і дыяспара – хочам дасягнуць, і азначыць інструменты дзеля гэтага.



Мы маем перад вачыма вельмі паспяховыя прыклады суседзяў Беларусі – Польшчы, Украіны, Латвіі, Літоўскай Рэспублікі. Яны вядуць вельмі актыўную і паспяховую працу з сваімі дыяспарамі. Гэты досвед трэба вывучаць і пераймаць.

Вялікай праблемай ёсць тое, што беларускія суполкі за мяжой працягваюць існаваць толькі дзякуючы прытоку новых мігрантаў з Беларусі. Па сутнасці, у другім пакаленні беларусы ўжо асімілююцца і губляюцца для Беларусі. Праца як беларускіх дзяржаўных органаў, так і ЗБС "Бацькаўшчына" павінна быць скіраваная ў тым ліку і на другое, трэцяе і наступныя пакаленні нашчадкаў – выхадцаў з Беларусі.

Нарэшце, хачу ў заканчэнне свайго выступу звярнуць увагу на вялікія юбілейныя даты, якія выпадаюць на 2017 і 2018 гады. Гэта 100-гадовы юбілей Першага ўсебеларускага З'езда і абвяшчэння Беларускае Народнае Рэспублікі.

Стагоддзе БНР — гэта вялікі юбілей і свята для ўсіх беларусаў, каму дарагія беларускія суверэнітэт і дзяржаўнасць. Гэта не залежыць ад палітычных поглядаў, сцяга і мовы. З абвяшчэннем БНР на месцы былых губерняў на палітычнай карце з'явілася Беларусь у сваім сучасным выглядзе: пад сваёй сучаснай назвай, са сваёй сучаснай сталіцай. Беларусь была ўпершыню абвешчаная дэмакратычнай рэспублікай. БНР, БССР і цяперашняя Рэспубліка Беларусь – гэта этапы аднаго і таго ж шляху, які пачаўся ў лютым і сакавіку 1918 года.

Я заклікаю беларусаў ва ўсім свеце годна адзначыць гэты важны юбілей.

Дзякую за ўвагу.

# ЗВАРОТ СТАРШЫНІ РАДЫ БНР ДА ДЭЛЕГАТАЎ СЁМАГА ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

Дарагія суродзічы беларусы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вітаю вас з гэтым, ужо сёмым па ліку, Зьездам Беларусаў Сьвету.

Ці прыехалі вы з далёкага замежжа, альбо завіталі на Зьезд па-суседзку з блізкіх мясьцінаў Беларусі, усе вы прадстаўляеце беларускі народ. Кожны з вас увасабляе, па-свойму, якісьці ўнікальны аспэкт нашай Бацькаўшчыны.

Беларусь існуе дзякуючы ўсім нам, дзе б мы ні знаходзіліся. Нашай дзейнасьцю, нашымі паводзінамі, высілкамі, якія мы робім, каб здабыць сяброў для нашага прыгожага краю, кожны з нас спрычыняецца да зьдзяйсьненьня нашай супольнай мэты: каб Беларусь заняла сваё пачэснае месца між іншымі народамі сьвету. Каб наша краіна сталася той Бацькаўшчынай, якой кожны з нас будзе магчы ганарыцца і якую сьвет прызнае ня дзеля яе бедаў, а дзеля яе годнасьці, яе прыгажосьці, і дзеля каштоўнасьцяў, якія яна дала чалавецтву.

Дарагія беларусы замежжа, эміграцыя, экзыль – вялікія выпрабаваньні для кожнага чалавека. Але, калі мы здолеем захаваць сваё пачуцьцё прыналежнасьці, яны нас зробяць мацнейшымі беларусамі, гатовымі змагацца за лепшую долю нашага народу.

Гісторыя неаднойчы сьведчыла, што беды ня ёсьць вечныя. Таму і мы мусім верыць, што і высілкі кожнага з нас урэшце перамогуць усе перашкоды на нашым шляху! Дык дапамажы нам Божа!

А ў міжчасе, жадаю ўсім вам шчасьліва правесьці гэтыя дні а мо і тыдні на Бацькаўшчыне і вярнуцца з новымі сіламі для працы на карысьць свайго народу.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла,
Старшыня Рады
Беларускай Народнай Рэспублікі**

## Кампанія па зборы сродкаў для падтрымкі сем'яў фігурантаў "справы патрыётаў"

Грошы неабходныя на адвакатаў, а таксама сем'ям затрыманых, якія з-за ператрусаў і арыштаў засталіся без сродкаў існавання. Гарантаваныя празрыстасць і мэтавасць выкарыстання.

Грошы можна перавесці альбо перадаць наступным чынам:

- Асабіста Nina Shydlouskaya альбо на яе картку Беларусбанк толькі ў беларускіх рублях 4255190182607666 (тэрмін дзеяння па 07/19 на імя Nina Shydlouskaya), e-mail: pamazhy2017@gmail.com).
- Асабіста сем'ям арыштаваных (пішыце асабістыя пведамленні pamazhy2017@gmail.com, каб даведацца, каму на той момант дапамога будзе больш неабходная).

VII з'езд беларусаў свету

# Хведар Нюнька: МОВА – ПРЫЗНАК БЕЛАРУСА

Выступ Хведара Ньнюкі, раднага БНР, грамадскага дзеяча з Вільні, на Сёмым з'ездзе беларусаў свету.

Вельмі хутка праляцелі чатыры гады ад Шостага з'езда. Шмат значных і важных падзей адбылося за гэты час у свеце – змяняліся палітычныя і эканамічныя асновы дзяржаў свету, дзе мірным шляхам, а дзе з кроўю.

Толькі ў нашай Беларусі ўсё захавалася стабільна, як было раней. Як каралі, так і караюць: звальненнем з працы, штрафамі, міліцэйскімі расправамі за гістарычную нацыянальную сімволіку, за мірныя пратэстныя акцыі, за крытыку існуючага рэжыму, тым самым парушаючы элементарныя правы чалавека. Не палепшылася драматычная сітуацыя з беларускай мовай, яна не стала дзяржаўнай, у адрозненне ад сітуацыі ва ўсіх суседніх краінах.

У Літве на галоўных каналах тэлебачання кожны тыдзень перадаюцца канцэрты па заяўках слухачоў і гледачоў. Канцэрт доўжыцца 2-3 гадзіны і запоўнены выключна літоўскай эстраднай і народнай музыкай і ніякай другой. Дык вось, прыклад адносін дзяржавы да сваёй мовы. Ці магчыма такое ў Беларусі?

Справа мовы архіважная для захавання беларускага этнасу. Калі параўнаць колькасць выдаваных дзяржаваю беларускіх газет, кніг і іншай прадукцыі, то варта спытаць: у якой незалежнай дзяржаве мы жывем?

А школы, якія павінны выхоўваць беларускіх патрыётаў, якія захаваюць беларускі этнас і культуру, а таксама пры патрэбе будуць абараняць Беларусь ад сапраўдных ворагаў, а не ад выдуманых – з "пятай калоны" ці "Белага легіёна". Сумна, але ў гарадах Беларусі наогул беларускіх школ няма – поўная русіфікацыя. Беларуса трэба выхаваць, каб ён стаў сапраўдным патрыётам сваёй краіны. Так робяць усе цывілізаваныя народы свету.

З гонарам хачу адзначыць, што дзякуючы маім намаганням і добрым адносінам з усімі літоўскімі ўладамі, мне ўдалося атрымаць дазвол на бюджэтным фінансаванні адчыніць у Вільні беларускую школу (цяпер гімназія) і беларускі факультэт пры педуніверсітэце. Аднак, замест падзякі, на працягу дваццаці гадоў адносіны паміж мною і беларускай амбасадай з падкантрольнай ёй беларускай школай разарваныя. Прычына – мае шматлікія пратэсныя акцыі супроць існуючага рэжыму і супроць парушэння правоў чалавека ў Беларусі.

Хачу нагадаць мой асабісты прыклад з жыцця і станаўлення нас да нацыі і народа. Я жыў у Беларусі пры польскай уладзе, вучыўся і выхоўваўся ў польскай школе і ў польскім духу, бо ні беларускіх, ні іншых не было. У 1942 годзе адчыніліся беларускія школы, усе школы перайшлі на беларускую мову. Настаўнікі, бальшыня з іх, былі мясцовыя беларускія патрыёты і вучылі нас праўдзівай беларускай гісторыі. Я зразумеў, што ніякі я не паляк і мова мая павінна быць беларускаю. У школе я стаў актывістам і беларускім патрыётам, і захаваў гэта на ўсё жыццё, ды стаў сябрам Беларускай Народнай Самапомачы. У часе нямецкай акупацыі я памагаў беларусам і беларускай справе, прафесійна валодаючы нямецкай моваю.

Цяпер цёпла і з удзячнасцю ўспамінаю сваіх першых настаўнікаў-выхаваўцаў. На жаль, лёс іх склаўся трагічна. Як пашану да іх памяці, хачу назваць некаторых з іх: гэта прафесар, выкладчык гісторыі Дзмітры Агіцкі; фізіку і матэматыку выкладалі Язэп і Юрка Клышэвічы, культуру – Пётра Рандарэвіч, Шляхтун і іншыя.

Пётра Рандарэвіч, Язэп і Юрка Клышэвічы і шмат, шмат іншых былі замардаваныя чырвонымі ці белымі бандамі, якія не змагаліся з акупантамі, а забівалі беларускіх актывістаў-адраджэнцаў.

Прафесар Дзмітры Агіцкі, сын святара ў Шчучынскай царкве, перажыў вайну, але асабістае жыццё склалася не менш трагічна. Мне даслалі газету з артыкулам "Кароль Лір са Шчучынскага раёну", дзе апісаныя апошнія гады жыцця гэтага выдатнага навукоўца і патрыёта. Гэта ён першы спрычыніўся да выхавання мяне беларускім патрыётам, што і пранёс я праз усё жыццё. Таму і тэрміновы пераезд мой напрыканцы 1943 года ў Вільню не быў прыпадковым, а звязаны быў з маёй беларускасцю.



Жыццё паказвае, што як толькі пры акупацыях з'яўляюцца спрыяльныя ўмовы (першая і другая сусветныя войны), беларусы здольныя арганізавацца і змагацца за свае інтарэсы, і, у першую чаргу, закладаюць беларускія нацыянальныя школы. Аб чым сведчаць дакументы. У мяне захаваўся арыгінал пашпарта, выдадзенага ў Літве ў 1916 годзе на нямецкай і беларускай мове – не на рускай, ці польскай, ці літоўскай, а на беларускай.

**Публікуецца з скаротамі, цалкам на сайце zbsb.org**

кніга

# "СПАДЧЫНА: АГЛЕДЗІНЫ". НОВАЯ КНІЖНАЯ СЕРЫЯ, ЗАСНАВАНАЯ СУМЕСНА ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА", БДАМЛІМ І БІНІМ

*І ў белы дзень, і ў чорну ноч*
*Я ўсцяж раблю агледзіны,*
*Ці гэты скарб не збрыў дзе проч,*
*Ці трутнем ён не з'едзены.*

***Янка Купала***

Гэтыя радкі з верша класіка ў 1981 годзе натхнілі Янку Запрудніка на напісанне артыкула і пазнейшае выданне асобнай публікаткі "Спадчына бацькоў: "агледзіны". Да 100-годдзя нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа". Са згоды і дабраславення Янкі Запрудніка яны сталі дэвізам і далі назву для новай кніжнай серыі, заснаванай сумесна мінскімі ЗБС "Бацькаўшчына", Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва ды нью-ёркскім Беларускім інстытутам навукі і мастацтва.

Дакладней, "Спадчына: агледзіны" – падсерыя ў вялікай кніжнай серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны", заснаванай ЗБС "Бацькаўшчына" ў 2004 годзе, аднак з асобнай канцэпцыяй. Адна з галоўных яе мэтаў: вярнуць з небыцця – выцягнуць з архіваў, з старой расцярушанай перыёдыкі – важныя для беларускай гісторыі і культуры тэксты і даць іх у кніжным выглядзе сённяшнім чытачам, ад студэнтаў да даследчыкаў, аднавіўшы такім чынам часавую сувязь. У падрыхтоўцы першых серыйных выданняў укладальнікам дапамагалі адмысloўцы ў беларускай гісторыі, культуры, архіўнай справе: Ганна Запартыка, Арсень Ліс, Анатоль Сідарэвіч, Андрэй Буча, Аляксандар Пашкевіч, Валянціна Лебедзева і іншыя.




Першай кнігай у новай серыі будзе "Выбранае" беларускага грамадскага дзеяча ў Празе, дзеяча БНР, публіцыста і філосафа Тамаша Грыба. Нягледзячы на дастатковую вядомасць гэтай асобы, ягоныя тэксты ніколі не выдаваліся ў кніжным фармаце. Раскіданыя па перыёдыках 1920–1930-х гадоў, а таксама захаваныя ў рукапісах-машынапісах, яны сёння ўпершыню сабраныя разам і прадстаўляць чытачу цікавую і разнастайную публіцыстычную і эпісталярную спадчыну пражскага беларуса. Кніга выбранага Тамаша Грыба мае выйсці ў свет ужо ў гэтым месяцы.

Наступным серыйным выданнем стане "Выбранае" літаратуразнаўцы й філосафа, чалавека, які некалі быў творчым апекуном Янкі Купалы Уладзіміра Самойлы. І ягоная спадчына сабраная пад кніжнай вокладкай таксама ўпершыню.

Выданні, што рыхтуюцца ў серыі, заснаваныя на архіўных і бібліятэчных росшуках. Гэта не маюць быць вычарпальныя "зборы твораў", але зборнікі, што разнастайна і шматгранна рэпрэзентуюць на сёння малавядомы ці нават амаль забыты даробак колішніх працаўнікоў беларушчыны. У кніг ёсць яшчэ адна мэта: не толькі прадставіць творчую спадчыну аўтараў, але і распавесці пра іх як асобаў – з увагі на тое, што іх біяграфіі да сёння маюць істотныя лакуны.

Трэцяй пазіцыяй у серыі, над якой вядзецца праца, станецца кніга пад назвай "Як укладалі «Спадчыну»" – бадай першае беларускае выданне, у якім распавядаецца гісторыя аднной адзінай кнігі, – "Спадчыны" Янкі Купалы, выдадзенай у Мюнхене ў 1955 годзе. Хоць змест шырэйшы за назву: у ёй малюецца панарама інтэлектуальнага жыцця беларускай эміграцыі 1950-х гадоў.

І Тамаш Грыб, і Уладзімір Самойла, і ўкладальнікі "Спадчыны" Вітаўт Тумаш і Станіслаў Станкевіч былі сябрамі Рады БНР. Таму цалкам лагічна, што серыя "Спадчына: агледзіны" мае прысвячэнне – "Да 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспубліцы" – наш сціплы ўнёсак у адзначэнне гэтага важнага юбілею.

**Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч**

VII з’езд беларусаў свету

# “ДА 4 МІЛЬЁНАЎ БЕЛАРУСАЎ ЗА МЯЖОЙ –

Найярчэйшыя цытаты з Сёмага з’езда беларусаў свету.

Каля 300 дэлегатаў з Беларусі і замежжа сабраліся на VII З’езд беларусаў свету ў Мінску. У Расіі з’яўляецца ўсё больш лубочных беларусаў, у Вялікай Брытаніі беларусы будуюць дамы, каб зарабіць на беларускую справу, у ЗША да эмігранцкіх арганізацыяў далучаецца моладзь. Мы паслухалі выступы, пагаварылі з дэлегатамі і запрошанымі гасцямі, каб адабраць найярчэйшыя цытаты З’езда.



### Алена Макоўская, кіраўніца ЗБС “Бацькаўшчына”

“Беларуская дыяспара цалкам пазітыўна ставіцца да прынятага ў 2014 годзе Закону “Аб беларусах замежжа”, аднак адзначае яго досыць дэкларацыйны характар. Закон мусіць быць падмацаваны падзаконнымі актамі наўпроставага дзеяння, а таксама іншымі сістэмнымі крокамі”.

“Невялікая дзяржаўная дапамога, якая сёння аказваецца ў межах праграмы “Беларусы ў свеце”, ідзе ўсё ж такі тым арганізацыям, якія збольшага лаяльныя. А міжнародны досвед вельмі моцна перасцерагае ад стварэння прывілеяваных групаў у супрацоўніцтве з дыяспарай”.

“Мы прапануем канцэпцыю развіцця “Беларусь – дыяспара” да 2025 года. Адным з ключавых элементаў канцэпцыі ёсць пабудова даверу. Дыяспара не адразу ацэньвалася пазітыўна, дый і самыя дыяспары не заўжды давяралі ўраду. Без інфармацыйна-асветніцкай, адукацыйнай працы ўнутры Беларусі пабудова даверу паміж нашай дзяржавай і дыяспарай немагчымая. Гэта і інфармацыйныя, і камунікацыйныя крокі, асветніцкая кампанія. Настаў час уключыць нашу дыяспару і ў падручнікі, і ў праграмы ўніверсітэтаў”.

“Наступным крокам можа стаць мабілізацыйная кампанія з праведзеннем захадаў для прафесіяналаў самых розных сфераў: культуры, эканомікі, медыцыны. Правядзенне сумесных з дыяспарай валанцёрскіх лагераў, летнікаў, моладзевых фестываляў”.

“Найважнейшы аспект супрацоўніцтва з беларускай дыяспарай, каб яна захоўвалася і існавала – гэта падтрымка, паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці. Тут, вядома, вельмі важна пачынаць працу ўнутры краіны. Бо праз невыразнасць нацыянальнай палітыкі ўнутры краіны мова і культура не карыстаюцца такім попытам, такой увагай сённяшніх эмігрантаў, якія выязджаюць з краіны”.

### Ніна Шыдлоўская, старшыня Рады ЗБС “Бацькаўшчына”

“У склад кіраўніцтва і Рады “Бацькаўшчыны” ўвходзілі Васіль Быкаў і Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч і Аляксей Кароль, Юры Хадыка і Анатоль Грыцкевіч. Іх няма сярод нас, але справа аб’яднання суродзічаў з усяго свету, якою яны жылі, працягваецца і будзе працягвацца”.

“Сёння, у эпоху інфармацыі і глабалізацыі, дзяржаўныя межы лёгка пераадольваюцца. Беларусы аб’ядноўваюцца ў інтэрнэт-суполкі, маюць вольны доступ да навінаў з Бацькаўшчыны, свабодна камунікуюць паміж сабой, нават знаходзячыся на адлегласці ў тысячы кіламетраў. Змяняецца характар нашай дыяспары, становіцца іншым партрэт беларуса замежжа”.

“Як дзейнічаць у новай сітуацыі, як адказваць на запыты часу – вось тое, што хвалюе нас і што мы хацелі б абмеркаваць. Без гэтага абнаўлення беларускую дыяспару чакае зусім іншая будучыня”.

“Вядома, усе мы розныя, у многіх арганізацыях ідуць дыскусіі, з’яўляюцца надзвычай сур’ёзныя праблемы, падчас працы з’езда будуць весці дыялог людзі розных пакаленняў і палітычных поглядаў.”

### Алег Рудакоў, намеснік кіраўніка клуба “Крывічы” ў Іркуцку

“Я ўводжу такі тэрмін як лубочная беларускасць. У Расіі беларускія грамадскія арганізацыі растуць як грыбы. Гэтаму спрыяе мясцовая ўлада, бо ім цікава паказаць шматнацыянальнасць. Шмат кажуць пра сяброўства з Беларуссю. Мала ў Расіі засталося братоў – суседніх краін з сяброўскімі адносінамі. Ёсць патрэба ў беларусах”.

“Беларускія грамадскія аб’яднанні ў Расіі часта існуюць як зямляцтвы. Беларускія святы не адзначаюць. Сустрэчы праводзяць 8 сакавіка, каб павіншаваць жанчын, альбо на Дзень перамогі, каб павіншаваць ветэранаў. Пры гэтым накрываюць стол і дастаюць аднекуль беларускую гарэлку, робяць дранікі на закуску. Вось неяк святы і правялі”.

“Я хацеў заахвоціць кіраўнікоў беларускіх суполак, якія існуюць у Расіі, перш за ўсё самім узяцца і вывучыць беларускую мову, сапраўдную беларускую гісторыю, традыцыйную культуру. Усё гэта можна зрабіць. Асабліва зараз, дзякуючы сучасным сродкам масавай інфармацыі і інтэрнэту. Было б жаданне. Калі кіраўнікі гэтых суполак самі стануць беларускімі патрыётамі, тады да іх пацягнецца моладзь. Тады спыніцца працэс асіміляцыі беларусаў”.

“Куды падзеліся беларусы, якіх у нашым рэгіёне ў 1913 годзе было 300 тысяч? У 1989 годзе іх было 50 тысяч, а ў 2012 годзе – 16 тысяч. Чаму нашчадкі перасяленцаў не запісваюцца згодна сваёй нацыянальнасці? Яны губляюць сувязь з гістарычнай радзімай. Больш за тое, нашых беларусаў і раней і цяпер як толькі не называлі. То літоўцамі, бо калісьці была так званая “служылая Літва” ў Сібіры, то палякамі, бо ўсіх удзельнікаў паўстання Кастуся Каліноўскага ў нас у Сібіры называюць палякамі, то ўкраінцамі, бо размаўляюць з цікавым гукам “г”, то, безумоўна, рускімі з Заходняга краю”.

“Цяга да каранёў, асабліва сярод моладзі, ёсць. Трэба толькі самаахвярна працаваць. Прычым працаваць трэба не толькі грамадскім аб’яднанням, якія існуюць за мяжой. Але трэба працаваць і дзяржаве. Калі дзяржава раптам заявіць пра сябе, што яна беларуская дзяржава, што яна падтрымлівае беларускую мову, беларускую культуру і беларускую традыцыю, то гэта адгукнецца і ў беларускай дыяспары”.

### Уладзімір Макей, Міністр замежных спраў Беларусі

“Так сталася, што мы з вамі жывём сёння ў розных дзяржавах, у розных культурных асяроддзях. Але ёсць тое, што аб’ядноўвае ўсіх нас, тое, што з’яўляецца нябачнай, але вельмі трывалай повяззю. Гэта любоў да Беларусі, да яе культуры, традыцыяў, духоўнай спадчыны”.

“Сёлета спаўняецца 500 год кнігадрукаванню, заснавальнік якога, асветнік Францішак Скарына, пяць стагоддзяў таму надрукаваў першую кнігу “Псалтыр” на беларускай мове. Як заявіў некалі кіраўнік нашай дзяржавы, справа Скарыны дазволіла заявіць усёй Еўропе, а можа, і ўсяму свету, што ёсць такі народ – беларусы”.

“Па рознай інфармацыі, ад трох да чатырох мільёнаў беларусаў-суайчыннікаў пражывае за мяжой – гэта мяккая, як кажуць дыпламаты, але і адначасовая вялікая і магутная сіла, здольная прасоўваць інтарэсы наро-

# ГЭТА МАГУТНАЯ СІЛА”

ду Беларусі, мацаваць незалежнасць дзяржавы”.

“Мы ўсе розныя. У кожнага з нас свой погляд на жыццё, на развіццё нашай краіны. Я не збіраюся заклікаць вас спяваць панегірыкі ўладзе ці ўсхваляць кагосьці ці штосьці. У гэтым вы можаце вызначыцца самі. Але кожны з нас можа штосьці зрабіць дзеля нашай галоўнай мэты – умацавання незалежнасці нашай дзяржавы. Гэта патрабуе ад нас аб’яднання перад знешнімі і ўнутранымі выклікамі”.

“Я згодны з логікай Святланы Алексіевіч, якая мне аднойчы сказала: “Напэўна, досыць Беларусі войнаў, досыць рэвалюцыяў”. Логіка канфрантацыі павінна адысці ў мінулае. Мы павінны кіравацца логікай кааперацыі. Мы павінны ад менталітэту процістаяння перайсці да менталітэту партнёрства. Вядома, гэта патрабуе пэўных намаганняў”.

### Станіслаў Шушкевіч, старшыня Вярхоўнага Савета 12 склікання

“Гэта добры з’езд, і большасць людзей тут мне падабаецца. Пераважная большасць. Але калі заклікаюць быць разам ахвяраў і катаў, я гэтага не ўспрымаю. А тут тыя, хто бароніць сённяшні беларускі рэжым, яны менавіта пад такімі лозунгамі прыйшлі на гэты з’езд. Гэта мне не падабаецца. Трэба быць шчырымі, хопіць тут гэтай хлусні. Я гавару пра словы Макея, пра словы Краўчанкі. Цудоўна, калі ўбачыш беларуску з Канады, якая шчыра, адкрыта падкрэслівае, што адбываецца і чаму”.

### Валянціна Шаўчэнка, старшыня Згуртавання беларусаў Канады

“Мне здаецца, што адна з галоўных праблемаў беларускага жыцця як за мяжой, так і тут, у Беларусі – гэта няздольнасць часам знаходзіць кампрамісы і паразуменне паміж сабой дзеля дасягнення агульнай мэты. Але ЗБС “Бацькаўшчына” змагло перадолець і гэта. Я ўпэўнена, што сярод беларусаў, якія сабраліся тут, шмат тых, хто трымаецца нават супрацьлеглых пунктаў гледжання на розныя праблемы. Але ж таксама ўпэўненая, што дзякуючы атмасферы сяброўства, адкрытасці і добразычлівасці, створанай кіраўніцтвам Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, мы здолеем прыйсці да агульнага меркавання”.

“Самае галоўнае цяпер менавіта для мяне, што ўсе ўдзельнікі справы “Белага легіёну” на волі, і ў гэтым вялікая заслуга старшыні рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” Ніны Шыдлоўскай. Патрыёт – не злачынца! Дзякуй, Ніна, што тыя мужчыны, якімі мусіць ганарыцца кожная краіна, могуць абняць сваіх матуляў, жонак і дзяцей”.

“Абсалютна відавочна, што ў сучасных умовах наша арганізацыя не бачыць магчымым падтрымліваць стасункі з дзяржаўнымі ўстановамі і органамі. На жаль, як нам бачыцца з замежжа, не назіраецца сапраўднага руху ў бок дэмакратыі, не існуе механізму дэмакратычнай змены ўлады і пераемнасці палітычнай эліты. Стан беларускай мовы, якая мусіць быць дзяржаўнай, вельмі сумны. Амаль што зусім няма беларускамоўных школаў і дзіцячых садкоў, вышэйшая адукацыя амаль уся на рускай мове”.

“У такіх умовах асноўнай і адзінай формай узаемадзеяння Згуртавання беларусаў Канады і Беларусі сёння ёсць падтрымка грамадскіх арганізацыяў, якія працуюць на развіццё беларускай мовы і культуры, акцыі салідарнасці з тымі, хто абсалютна легітымна патрабуе зменаў. Таму што патрыётамі ёсць не тыя, хто моўчкі пагаджаецца з усім, што адбываецца ў краіне. Патрыётам ёсць той, хто хоча зменаў да лепшага, у каго душа баліць за родную мову, культуру і гісторыю. Жыве Беларусь!”

### Наталля Гардзіенка, Намесніца дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва

“Той самы досвед старых дыяспараў сведчыць, што абыякавасць і нават варожае стаўленне ўладных структур да замежных беларусаў спрые не толькі негатыўнаму стаўленню да замежных суайчыннікаў у беларускім грамадстве, але і прыводзіць і правакуе з’яўленне “падзеленай нацыі”.

“Не мусіць беларус замежжа прыязджаць у Беларусь, атрымліваючы адмысловую візу, і рэгістравацца як замежны грамадзянін. Найперш гэта павінны ўсведамляць уладныя структуры ў Беларусі”.

“Менавіта супольная памяць ёсць тым фактарам, які лучыць людзей у нацыю, у тым ліку і беларусаў. І ў гэтай сувязі я б хацела сказаць пра архівы і супольную адказнасць суродзічаў і замежжа, і метраполіі за захаванне культурнай спадчыны замежных беларусаў як часткі нашай агульнай нацыянальнай культуры. Архівы – гэта не магільнікі для дакументаў. Хто валодае архівамі, той валодае гісторыяй. Мы запрашаем усіх суродзічаў з усіх асяродкаў беларускага замежжа перадаваць нам дакументы і матэрыялы, звязаныя з вашай дзейнасцю”.

### Алеся Кіпель, старшыня Беларуска-амерыканскага задзіночання, ЗША

“Самае цяжкае для дыяспары – што няма падручнікаў, цяжка даставаць кніжкі. І вельмі важна мець кантакты, ведаць, да каго можна звярнуцца, калі нешта будзе патрэбна”.

“Вельмі важна, калі ўлады прыходзяць на такі з’езд. Гэта прыемна бачыць”.

“Наш аддзел Беларуска-Амерыканскага задзіночання даволі часта збіраецца. Моладзь прыходзіць. У нас даволі многа маладых з малымі дзецьмі. Таксама гэта вельмі важна. Часам бывае 8–10 дзяцей, якія прыходзяць з бацькамі на сходы. Гэта вельмі дапаўняе нас”.

“Добра, што арганізацыя трымаецца. У нас у Вашынгтоне яна расце. Важна, што прыцягваем маладых і новапрыбылых. Для нас вельмі важна, каб ім было цікава, каб мы разам працавалі над беларускімі справамі. Я думаю, мы добрую працу робім”.

### Васіль Еўдакімаў, прадстаўнік суполкі беларусаў Вялікабрытаніі

“У нас у Вялікай Брытаніі з’явіўся прафесійны саюз беларусаў, дзе юрысты, банкіры, страхаўнікі збіраюцца раз на месяц у пабе каля кафедральнага сабора Святога Паўла, абменьваюцца думкамі, ідэямі, досведам. І п’юць піва. Усё цудоўна атрымліваецца”.

“Мы пабудавалі цудоўную царкву. Яна была прызнаная найлепшым будынкам 2016 года ў Лондане. Прыходзяць людзі і фатаграфуюцца. Я сам вельмі люблю гэты будынак. Калі будзеце ў Лондане, абавязкова заходзьце. Гэта першая драўляная царква ў Лондане з часу вялікага пажару ў 1666 годзе”.

“Мы ладзім Каляды і Купалле. Сёлета на Купаллі было вельмі шмат дзетак. Проста дзіцячы садок. Прыходзяць людзі, якія раней не прыходзілі”.



Працяг на старонцы 6.

**VII з'езд беларусаў свету**

# "ДА 4 МІЛЬЁНАЎ БЕЛАРУСАЎ ЗА МЯЖОЙ – ГЭТА МАГУТНАЯ СІЛА"

**Працяг са старонкі 5.**

"Мы маем дабрачынны траст беларусаў у Вялікай Брытаніі. У свой час людзі сабралі грошы, уклалі іх у маёмасць, у акцыі. І мы спансуем беларускія кнігі, адукацыю, падзеі. Зараз мы шмат грошай накіроўваем на развіццё нашай гаспадаркі там. Будуем дамы, разбудоўваемся, каб атрымаць болей грошай. Ідэя ў тым, што будзем зараз менш грошай накіроўваць на нашыя патрэбы ў Брытаніі, а больш на Беларусь. Звяртайцеся да нас. З радасцю дапаможам".

### Алег Латышонак, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства ў Беластоку

"Апошні перапіс, праведзены ў 2011 годзе, паказаў, што ў Польшчы пражываюць 44 тысячы беларусаў і сярод іх толькі 38 тысячаў у Падляшскім ваяводстве. Гэта перапіс не быў усеагульным і наогул быў на нашай тэрыторыі праведзены нячэсна. Але, безумоўна, беларусаў меншае. Ад старасці вёска адмірае, а з мястэчак людзі выязджаюць у глыб Польшчы ці на Захад. За апошнюю чвэрць стагоддзя насельніцтва Гайнаўкі – аднаго з трох цэнтраў беларускіх у Польшчы – паменшала з 24 да 16 тысяч чалавек".

"Дзякуючы намаганням бацькоў дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову, з'явілася пастаяннае навучанне беларускай мовы, пачынаючы ад садку. Разам з Міністэрствам нацыянальнай адукацыі была распрацаваная дзяржаўная стратэгія развіцця беларускага школьніцтва. Беларуская мова стала дапаможнай у чатырох гмінах, з'явілася на дарожных паказальніках. Дзякуючы пабудове заводу IKEA ствараецца беларускі культурны цэнтр".

"Апошнія гады прынеслі крыху аптымізму ў беларускі рух у Польшчы. Памалу, але ў гэты рух ізноў уваходзіць маладое пакаленне. У Беластоку пасяляюцца крыху выхадцаў з Беларусі, якія ўзмацняюць наш патэнцыял. Беларуская Беласточчына ўжо ніколі не будзе адыгрываць такой ролі ў агульнанацыянальным жыцці, як у 1990-я. Але ўсё ж такі будзе жыць".

### Пятро Краўчанка, міністр замежных спраў Беларусі (1990–1994)

"Я не ведаю, як мы можам выхаваць новае пакаленне, калі мая ўнучка Маша будзе вывучаць беларускую гісторыю на рускай мове. Я не ведаю, чаму мы не адзначылі ў снежні 2015 года стагоддзе беларускай школы. Што, у нас няма адпаведнага міністэрства? Што, у нас няма педагагічнага ўніверсітэта, які мог унесці прапанову? Чаму толькі 1 з 670 студэнтаў вывучае ўсе дысцыпліны па-беларуску?"




"Я пабываў у мінулую суботу ў Жораўцах у Асіповіцкім раёне, дзе адзначалася 156-гадовая гадавіна выдатнай беларускай патрыёткі Магдалены Радзівіл. Уявіце сабе, на беларускую справу яна аддала 50 кілаграмаў золата. Гэта больш за 2 мільёны даляраў. Без Магдалены Радзівіл не было б Беларусі. Яна спансавала выданне "Нашай Нівы", друкарню Марціна Кухты. Давайце зробім канкрэтную справу. Няхай "Бацькаўшчына" выступіць ініцыятарам мемарыяльнай шыльды ў гонар выдатнай беларускі Магдалены Радзівіл".

"Я лічу, што прыйшоў час адзначыць на дзяржаўным узроўні ў 2018 годзе 100-годдзе БНР і БССР праз год. Ніякіх перашкодаў для гэтага я не бачу. БНР і БССР – гэта справа аднаго кораня".

**Паводле "Радыё Свабода"**

**навіны**

# У ПОШУКАХ ПАПАРАЦЬ-КВЕТКІ

Паводле старадаўніх традыцый продкаў зладзілі Купалле беларусы Швейцарыі – на маляўнічым беразе возера Грайфензээ

Ладзілі сёлета Купалле пад Цюрыхам сябры "Беларускага аб'яднання ў Швейцарыі", паклапаціліся пра стварэнне адпаведнай атмасферы. Пад Купальскае месца выбралі бераг возера: тыя мясціны вельмі нагадваюць беларускія. Там адразу ўключаліся ў дзеі госці свята, сярод якіх былі таксама і рускія, украінцы, швейцарцы: звівалі вянкі ды пускалі іх па вадзе, разам з артыстамі спявалі Купальскія песні, танчылі пад народную музыку, скакалі цераз вогнішча, назіралі за "вогненным шоу"...

Павел Мацукевіч, Часовы паверанны па справах Беларусі ў Швейцарыі, – таксама сярод купальцаў. Казаў для цікаўных: "Беларускі варыянт праўдзення Купалля лічыцца найбольш аўтэнтычным, паколькі менавіта ў ім захавалася спрадвечная сутнасць". Стараадаўнія, дагістарычныя дзеі язычніцкія з часам увабралі ў сябе і хрысціянскія традыцыі. Цікава: і цяпер адзначаюць свята не толькі ва ўсходнеславянскіх краінах, але і ў Англіі, Шатландыі, Іспаніі. Падобныя дзеі, звязаныя з культам Сонца, праводзяцца здаўна ў пару летняга сонцастаяння.

Па словах прэзідэнта "Беларускага аб'яднання ў Швейцарыі" Сяргея Сіроткіна, Купалле ў гэтай краіне беларусы праводзяць не ўпершыню. Штогод сябры суполкі адзначаюць розныя народныя святы, і абавязкова – Дзень роднай мовы ў лютым, і канцэрты беларускіх выканаўцаў ладзяць. Да традыцыйных кірункаў працы дадаліся новыя: "Плануем усталяваць помнік Тадэвушу Касцюшку. Гэтым праектам займаецца папярэдні прэзідэнт суполкі Алесь Сапега. Усе нюансы ўжо абмеркаваныя, і сёлета ў кастрычніку помнік павінен з'явіцца ў швейцарскім горадзе Залатурн: там памёр нацыянальны герой".

"Галоўнае: старажытная традыцыя беларусаў жыве, – лічыць Павел Мацукевіч. – Купалле ў нашы дні – гэта вясёлая святочная забава, заснаваная на рытуалах і абрадах, якія перажылі стагоддзі, якім з задавальненнем аддаюцца і дарослыя, і дзеці". Дарэчы, сам дыпламат упершыню наведаў гэтае свята менавіта ў Швейцарыі: летась, калі яго адзначалі на рацэ Аарэ ў Берне.

Многія з гасцей Купалля ў пару любавання заходам сонца і вячэрнімі пейзажамі заўважалі з настальгіяй: усё гэта нагадвае родную Беларусь... Казалі: тут, на Грайфензээ, яны адчуваюць сябе "як дома". Так што з Купальскім месцам швейцарскім беларусам – пашанцавала!



**Паводле Надзеі Капонэ, г. Цюрых, Швейцарыя "Голас Радзімы"**




# АБМЕРКАВАННЕ "НАРОДНАЙ ПРАГРАМЫ "ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ"

18 чэрвеня ў грамадскай зале сабору БАПЦ прайшло абмеркаванне "Народнай праграмы "Вольная Беларусь". Напісаная ў выглядзе праекта канстытуцыі, праграма, па словах Зянона Пазьняка, можа быць выкарыстаная любой нацыянальнай сілай, якая дбае пра будучыню Беларусі.

Зянон Пазьняк падрабязна растлумачыў прысутным асноўныя тэзісы праграмы, зазначыўшы, што яна застаецца адкрытай для абмеркавання, і праца над ёй будзе працягвацца.

**БАЗА, Нью-Ёрк**

навіны

# ПРЫЙШЛІ ДА СКАРЫНЫ

Беларусы з розных краін свету ўсклалі кветкі да помніка Францыску Скарыну ў Празе

Член Кансультатыўнага савета Сяргей Татун з Чэхіі запрасіў гасцей, а беларусы з Германіі, Ізраіля, Італіі, Літвы, Расіі, Францыі, Эстоніі адгукнуліся, і ў чэрвені ў Празе адбылася пазачарговая сяброўская сустрэча членаў Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа, што створаны пры Міністэрстве замежных спраў Беларусі.

Ветлівыя гаспадары Сяргей і Святлана Татуны правялі для гасцей экскурсію па горадзе: шляхамі Скарыны. А да помніка першадрукару з нагоды 500-годдзя выдання першай кнігі на беларускай мове былі ўскладзены кветкі ад усіх сябраў Кансультатыўнага савета. Прысутныя гаварылі пра значэнне беларускай мовы ў асабістых лёсах, неабходнасць заўсёды і ўсюды памятаць свае карані. Казалі аб працы беларускіх суполак, заснаваную, перш за ўсё, на любові да Радзімы. А Сяргей Шабадалаў з літоўскага Вісагінаса вельмі прыгожа і пранікнёна прачытаў вершы Генадзя Бураўкіна “Я не ганю землі чужыя...” і Станіслава Валодзькі “Беларускі дом”.

Віктар Байкачоў з Нарвы зрабіў невялікі відэафільм, які можна паглядзець на старонках групы “Беларусы свету” ў сацыяльных сетках.



Абмяркоўвалі сябры і пытанні ўмацавання эканамічных і турыстычных сувязяў краін свайго пражывання з Беларуссю. Усе прысутныя падтрымалі прапанову і далей праводзіць такія сустрэчы.

**Паводле Мікалая Логвіна, г. Клайпеда, Літва “Голас Радзімы”**

# “ФЭСТ” ІЗНОЎ ЗБІРАЎ СЯБРОЎ

У латышскай Дагдзе ў трэці раз прайшоў Міжнародны фэст народнай песні ды танца

Прыемна ўсім беларусам Латвіі і суседніх краін бачыць, як хутка набірае моц адметны “ФЭСТ”. Сёлета ён сабраў каля 500 удзельнікаў з Латвіі (Даўгаўпілс, Рэзэкнэ, Ліваны, Дагда і Дагдскі край), Літвы (Вісагінас), Беларусі (Дуброўна, Наваполацк, Барысаў, Смаргонь, Мінск), Польшчы (Нарэўка, Гарадок). Фестываль – з плыні праектаў, якія фінансуе Латгальскі фонд падтрымкі недзяржаўных арганізацый. Ідэя фэсту, які спрыяе развіццю культурных стасункаў паміж рознымі краінамі, належыць Беларускаму таварыству “Вербіца” з Дагды, кіраўніцы суполкі Таццяне Гогалінскай.

8 ліпеня ў першую палову дня прайшлі канцэрты ў краёвай думе і сацыяльным цэнтры – іх вялі члены праўлення Беларускага культурна-асветніцкага таварыства “Уздым” з Даўгаўпілса Людміла Сінякова і Вольга Паўловіч. Потым дзеі перамясціліся ў лесапаркавую зону. Калонай з нацыянальнымі сцягамі краін-удзельніц прайшла па вуліцах Дагды да эстрады. Лаўкі запоўнілі гледачы. Запрацавалі гандлёвая палатка, месца па звіванні вянкоў, інфацэнтр, выстава майстроў са Смаргоні...

Адкрывалі “ФЭСТ” старшыня Дагдскай краёвай думы Айвар Труліс, консулы Беларусі ў Даўгаўпілсе Антаніна Струнеўская і Яўгенія Барткевіч, член праўлення Саюза беларусаў Латвіі Алена Лазарава, дэпутаты 12 Сойма Аляксандр Якімаў і Зэнта Трэццяк. Вялі канцэрт загадчыца народным Асунскім домам культуры Вольга Лук’янская, супрацоўнік Дома культуры з Дуброўна Уладзімір Бабічаў, а таксама старшыня таварыства “Уздым” Людміла Сінякова з яе намесніцай Вольгай Паўловіч.

“ФЭСТ” ладзіцца ў Дагдзе ў Купальскую пару: праз нумары канцэрта гледачы знаёмяцца з традыцыямі нашага Купалля. Сёлета можна было і пагуляць у гульню




grani.lv



grani.lv

“Падушачка”, даведацца пра магічную сілу траў, пабачыць Вядзьмарку і запаліць Купальскае вогнішча. Над сцэнарам гала-канцэрта ў гонар Купалля, дарэчы, папрацавалі й беларускі з Даўгаўпілса Людміла Сінякова і Галіна Сантоцкая.

На “ФЭСЦЕ” актывісты Беларускага таварыства “Сузор’е” з Рэзэкнэ перадалі вялікі ручнік, які вышываюць беларусы ўсёй Латвіі, рыхтуючыся да 100-годдзя Латвіі ды 15-годдзя Саюза беларусаў Латвіі, сябрам з Беларускага таварыства “Крыніца” (Лудза). Пра сам праект распавяла яго кіраўніца Алена Лазарава.

Беларусаў Даўгаўпілса на “ФЭСЦЕ” прадстаўлялі танцавальны гурт “Лянок”, вакальна-інструментальны “Пралескі”, паэт Станіслаў Валодзька. У канцэртах вакальныя гурты “Вярба” і “Аколіца” з Дагды, “Сузор’е” з Рэзэкнэ выконвалі песні на словы паэта, чытаў ён і свой верш “Ты мая Купалінка”.

Закончыўся “ФЭСТ” у Дагдзе ўручэннем дыпломаў, памятных сувеніраў і прыгожых букетаў з Купальскіх кветак.

**Міла Дзвінская, Дагда — Даўгаўпілс “Голас Радзімы”**

навіны

# ТАВАР ЯК ВЕСТАЧКА З АЙЧЫНЫ

Беларускія суполкі з Іркуцка дапамагаюць вытворцам з Беларусі шукаць у Прыбайкаллі новыя рынкі збыту.

Не толькі дзякуючы прыгожым песням, танцам і дзяўчатам ведаюць Беларусь у свеце. Брэнды "МАЗ", "БелАЗ", "Беларус" ды некаторыя іншыя – працуюць на прэстыж краіны.

З Мінска да Іркуцка будзе каля 6000 кіламетраў, а вось жа і ў Прыбайкаллі шукаюць новыя рынкі збыту нашы вытворцы. "Кірмаш-выстава беларускіх тавараў народнага спажывання, арганізаваная кампаніяй "БелВедовица" з Брэста, дабралася й да горада Іркуцка, – напісалі ў рэдакцыю нашы сябры з Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага. – З 13 па 22 чэрвеня на плошчы пры Палацы спорту "Труд" сваю прадукцыю прадстаўлялі 14 прадпрыемстваў харчовай прамысловасці ды 6 прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці з Беларусі. А крыху раней гэткі ж кірмаш з вялікім поспехам прайшоў у горадзе Брацку".

Ці падабаецца сібіракам прадукцыя з маркай "Зроблена ў Беларусі"? Так! Вось і тыя, хто ладзіць кірмашы ў Прыбайкаллі, "адзначаюць стабільны і высокі попыт мясцовага насельніцтва на беларускую прадукцыю". У цане – якасць, натуральнасць. Найбольш запатрабаваны мясны асартымент, а ўвогуле, пішуць супляменнікі, чэргі яны бачылі практычна пры кожнай гандлёвай палатцы. Звяртаюць увагу й на высокі ўзровень арганізацыі кірмашу. Гандлёвыя рады аформлены з прыгожай беларускай сімволікай, з нацыянальным каларытам і форма адзення ў кампетэнтных, добразычлівых прадаўцоў.




Падабаецца кірмаш Алёне Сіпаковай, якая ўзначальвае беларускую суполку ў Іркуцку. Алена Грыгор'ева

Кірмаш у Іркуцку адкрываўся ўрачыста, з удзелам афіцыйных асоб горада, прадстаўнікоў кампаніі "БелВедовица", а таксама Віктара Шчацько – дарадцы з Аддзялення Пасольства Беларусі ў Расіі ў горадзе Краснаярску. Канцэртную праграму зрабілі мясцовыя беларусы: творчы гурт Іркуцкага Беларускага клуба "Крывічы". Такая супраца бізнесу, дыпламатаў, актывістаў грамадскіх суполак заслугоўвае вялікай павагі. Гэта – досвед, варты пераймання. У святочнай абстаноўцы ад імя Пасла Беларусі ў Расіі Віктар Шчацько ўручыў падзякі актывістам беларускай грамадскасці Іркуцка – за значны асабісты ўклад у захаванне і пашырэнне беларускай культурнай спадчыны ў Іркуцкай вобласці, умацаванне дружбы паміж народамі Беларусі ды Расіі. Былі адзначаны энтузіясты: Алег Рудакоў, Алёна Сіпакова, Наталля Барадзейка, Таццяна Гапоненка, Тамара Дзятлава, Уладзімір Кочнеў, Любоў Кулікова, Аляксей Кухта, Людміла Лаўшук, Леанід Лабейка, Ларыса Намаконава, Кацярына Агаркава, Юлія Пермінава, Ганна Радзівонава, Андрэй Рабаў, Рауль Саітгарэеў, Міхаіл Свішчук, Таццяна Сіпакова, Аляксей Цераахаў, Аляксандр Федзюковіч.

Карысць ад кірмашу ў тым, што ён мацуе повязі супляменнікаў з Бацькаўшчынай. І ў лагістыцы паставак беларускай прадукцыі ў аддаленыя рэгіёны Расіі, у іншыя краіны, пэўна, варта было б шырэй выкарыстоўваць патэнцыял суполак мясцовых беларусаў, іх дзелавыя, грамадскія сувязі.

**Паводле Алеся Мурочка, "Голас Радзімы"**

навіны "Будзьма беларусамі!"

# "ВОГНЕПАКЛОННІЦА" ІНЫ СНАРСКАЙ У ЛІТАРАТУРНЫМ МУЗЕІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

На адзін вечар Літаратурны музей Максіма Багдановіча стаў прыстанкам для шматлікіх шанавальнікаў "Вогнепаклонніцы". Так называецца новы зборнік вершаў Іны Снарскай.

Іна Снарская піша, выдаецца пабеларуску і па-ўкраінску. Яна паспяховая журналістка і сцэнарыстка дакументальнага кіно. Зборнік "Вогнепаклонніца" пабачыў свет у бібліятэчцы часопіса "Дзеяслоў".

На вечары Іна прадставіла сваю новую кнігу, а таксама паказала фрагмент дакументальнага фільма пра Лесю Украінку, які месяц таму стаў лаўрэатам Усеўкраінскай літаратурна-мастацкай прэміі імя Алены Пчылкі. Арганізавалі вечарыну амбасада Украіны ў Беларусі, Саюз беларускіх пісьменнікаў і літаратурны музей Максіма Багдановіча. Вечар адбыўся ў межах кампаніі "Будзьма беларусамі!" і акцыі "500-годнасць".



Творчы вечар упрыгожыла спевамі бард Таццяна Матафонава.

**Максім Каўняровіч, "Беларускае Радыё Рацыя"**

## Беларускі каляндар памятных дат на жнівень 2017 года

1 жніўня – 105 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Янка Ролсан (сапр. Гадзіцкі), паэт, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

3 жніўня – 170 гадоў таму, у 1847-м, памёр Марцін Цяплінскі, паэт, фальклярыст, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

4 жніўня – 100 гадоў таму, у 1917-м, нарадзіўся Янка Брыль, народны пісьменнік Беларусі.

4 жніўня – 70 гадоў таму, у 1947-м, нарадзіўся Мікола Селяшчук, мастак.

6жніўня – 500 гадоў таму, у 1517-м, Францыск Скарына ў Празе выдаў першую кніжку Бібліі – першую беларускую і ўсходнеславянскую друкаваную кнігу.

6 жніўня – 140 гадоў таму, у 1877-м, памёр Іван Насовіч, мовазнавец, этнограф.

7 жніўня – 180 гадоў таму, у 1837-м, нарадзіўся Баляслаў Калышка, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

7 жніўня – 150 гадоў таму, у 1867-м, памёр Людвік Камінскі, удзельнік паўстання 1830–1831 гг., паэт.

8 жніўня – 40 гадоў таму, у 1977-м, у Парыжы памёр Леў Гарошка, гісторык, выдавец, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Францыі, Вялікабрытаніі і Ватыкане.

10 жніўня – 230 гадоў таму, у 1787-м, нарадзіўся Ігнат Даніловіч, даследчык гісторыі права Вялікага княства Літоўскага.

12 жніўня – 140 гадоў таму, у 1877-м, нарадзіўся Тодар (Хведар) Данілюк, удзельнік Слуцкага паўстання, адзін са стваральнікаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы.

12 жніўня – 25 гадоў таму, у 1992-м, памёр Юрка Луцкевіч, вайсковец.

13 жніўня – 95 гадоў таму, у 1922-м, нарадзіўся Кастусь Шышэя (сапр. Арол) дзеяч беларускага вызваленчага руху.

14 жніўня – 175 гадоў таму, у 1842-м, нарадзіўся Уладзімір Кавалеўскі, заснавальнік эвалюцыйнай палеанталогіі, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

14 жніўня – 135 гадоў таму, у 1882-м, нарадзіўся Аляксандр Мікульчык, паэт.

15 жніўня – 45 гадоў таму, у 1972-м, памёр Лявон Баразна, мастак.

17 жніўня – 110 гадоў таму, у 1907-м нарадзіўся Васіль Каваль (сапр. Кавалёў), пісьменнік.

18 жніўня – 75 гадоў таму, у 1942-м, памёр Лявон Більдзюкевіч, матэматык, грамадскі дзеяч.

19 жніўня – 105 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Барыс Мікуліч, пісьменнік.

23 жніўня – 170 гадоў таму, у 1847-м, памёр Ян Чачот, паэт, фальклярыст.

23 жніўня – 100 гадоў таму, у 1917-м, нарадзіўся Пімен Панчанка, народны паэт Беларусі.

23 жніўня – 30 гадоў таму, у 1987-м, памёр Міхась Стральцоў, пісьменнік.

25 жніўня – 85 гадоў таму, у 1932-м, нарадзіўся Пятрусь Макаль, літаратар.

28 жніўня – 245 гадоў таму, у 1772-м, нарадзіўся Францішак Сапега, удзельнік паўстання 1794 г.

**Беларусы ў свеце**
No 6-7 (181-182), чэрвень-ліпень 2017

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27